© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## ПЕРШЫ НАРОДНЫ АРТЫСТ БССР

Жыццёвы шлях Уладзіслава Галубка — гэта крыніца мастацтва, з якой пілі спрагнелыя душы соцен тысяч беларусаў з розных, нават сымых недаступных куткоў краіны. Рэжысёр, акцёр, пісьменнік, драматург, мастак і музыка — вобраз і постаць аднаго і таго ж чалавека. Але ўсё працавала на тэатр, з якім звязаў ён сваё жыццё. Сам ён пісаў п'есы, сам рабіў мастацкае афармленне, грым, іграў на гармоніку, сам афармляў пастаноўку. Чалавек усебакова таленавіты.

Уладзіслаў Іосіфавіч Галубок нарадзіўся 15 мая 1882 года ў сям'і чыгуначніка. Шматлікія непасільныя пятнаццацігадоваму хлапчуку працы былі настаўнікамі ўражлівасці яго характару.

„Сапраўдны талент, як парастак кінутага ў камяністую глебу зярняці, заўсёды праб'ецца на паверхню, нягледзячы на ўсе перашкоды. Так было і з Галубком", — піша Алесь Звонак у артыкуле „Самаадданае служэнне народу".

Упершыню У. Галубок пазнаёміўся з тэатрам, калі было яму 15 год. Была гэта нейкая вандроўная трупа. Усё адбывалася на ўкраінскай мове. Потым гады 1911-1912, гады тэатральнай дзейнасці Буйніцкага. Гэта яшчэ больш завалодала ўражлівым маладым Галубком. Тэатр, ігра акцёраў поўнасцю запалонілі яго душой і ў 1917 годзе, калі ў Мінску стварылася „Першае таварыства беларускай драмы і камедыі", на працягу нейкага часу прыймае ў ім удзел і сам Галубок. З гэтага часу яго тэатральныя ўсходы ўзнімаюцца вышэй і вышэй. Яго ўласная трупа, званая „Трупай Галубка", якая пазней перайменавалася ў Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, а затым дала пачатак Трэцяму беларускаму дзяржаўнаму тэатру, з'яўляюцца тэатральным шляхам Галубка, шляхам, ад якога сцяжынкі снуюцца па ўсёй Беларусі. „Голуб і яго галубяняты", — гаварылі людзі, убачыўшы вандроўных акцёраў.

Уладзіслаў Галубок, прадаўжальнік традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча, паказаў дарогу шырока вядомым сёння акцёрам, рэжысёрам. З ім супрацоўнічалі і працавалі вядомыя пісьменнікі і музыкі.

„Я ўпэўнены і цяпер, што, калі б не сустрэўся на маім жыццёвым шляху дзядзька Галубок, не выгадаваў бы я сына кампазітара. Я і сягоння ўдзячны гэтай шчаслівай нагодзе", — піша Міхась Лучанок у артыкуле „З успамінаў пра У. І. Галубка. 14 артыкулаў чатырнаццаці розных аўтараў, якія сустрэліся ці ішлі поруч з Уладзіславам Галубком, малююць вобраз гэтага першага народнага артыста БССР. „Адхінуўшы заслону часу...", бо такі загаловак далі кніжцы, гэта ўспаміны пра чалавека, які ў 20-30 гады аб'яднаў вакол сябе самую таленавітую моладзь, які нанава зрабіў беларускі тэатр і да канца сваіх дзён нёс людзям радасць мастацтва.

**Міхась Шаховіч**

---

Адхінуўшы заслону часу..., Мастацкая літаратура, Мінск 1979 г.

# Навучанне беларускай мовы ў 1980/81 годзе

**(Статыстычная даведка)**

Паводле даных Беластоцкай куратарыі асветы і выхавання ў бягучым 1980/81 школьным годзе беларускую мову вывучае 4068 вучняў пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школ, г.зн. на 197 вучняў менш, чым у папярэднім школьным годзе. Варта заўважыць, што гэтае змяншэнне было крыху большым, чым у 1979/80 годзе, калі абсяг навучання беларускай мовы скараціўся на 184 вучняў[1]).

Колькасць навучэнцаў Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання зменшылася на 53, а Гайнаўскага — на 8. У выніку агульны лік ліцэістаў, якія вывучаюць беларускую мову зменшыўся на 61 і ў бягучым школьным годзе складае 638.

У 41 пачатковай школе Беласточчыны вывучае беларускую мову 3430 дзяцей, у тым ліку ў II класах — 480, III — 501, IV — 452, V — 512, VI — 449, VII — 509 і VIII — 527. У параўнанні з 1979/80 годам агульная іх колькасць паменшылася на 136, прычым найбольшае змяншэнне наступіла ў школе № 2 у Гайнаўцы (—34), а таксама ў школах Нараўкаўскай (-20), Арлянскай (-17), Боцькаўскай (-16) і Бельскай (-14) гмін. Адначасова павялічылася колькасць вучняў пачатковай школы № 3 у Бельску (+23) і Белавежы (+4).

Ніжэй прыводзяцца даныя, якія паказваюць абсяг навучання беларускай мовы ў паасобных гарадах і гмінах Беластоцкага ваяводства:

| | 1979/80 | | 1980/81 | |
|---|---|---|---|---|
| | школ | вучняў | школ | вучняў |
| Ліцэі разам | 2 | 699 | 2 | 638 |
| Бельск | 1 | 434 | 1 | 381 |
| Гайнаўка | 1 | 265 | 1 | 257 |
| Пачатковыя школы | 43 | 3566 | 41 | 3430 |
| Бельск | 1 | 439 | 1 | 462 |
| Гайнаўка | 1 | 110 | 1 | 76 |
| гміны: | | | | |
| Арлянская | 3 | 389 | 4 | 372 |
| Белавежская | 1 | 4 | 1 | 8 |
| Бельская | 8 | 426 | 7 | 412 |
| Боцькаўская | 1 | 64 | 1 | 48 |
| Вышкаўская | 1 | 4 | 1 | 2 |
| Гайнаўская | 6 | 502 | 6 | 497 |
| Гарадоцкая | 1 | 41 | 1 | 31 |
| Дубіцкая | 3 | 222 | 3 | 216 |
| Заблудаўская | 1 | 72 | 1 | 67 |
| Кляшчэлеўская | 2 | 86 | 2 | 76 |
| Мілейчыцкая | 1 | 5 | — | — |
| Нараўкаўская | 4 | 359 | 4 | 339 |
| Нараўская | 6 | 321 | 5 | 309 |
| Чыжоўская | 3 | 522 | 3 | 515 |

**(тур)**

[1]) гл. „Ніва" № 49, 9 снежня 1979 г.

Наша галерэя

*Віктар Маркавец. Партрэт Паўла Янкоўскага (народнага музыкі).*

# Бібліяграфічны куточак

Gnatowska Helena, **PPR w województwie białostockim 1944-1948. Rozwój i działalność,** „Książka i Wiedza", Варшава 1979, стар. 346, цана 50 зл.

Аўтар спрабавала па-новаму вызначыць палітычнае і грамадска-эканамічнае палажэнне Беластоцкага ваяводства ў гадах 1944-1948 і паказаць ролю Польскай рабочай партыі ў жыцці нашага рэгіёна. Аналіз архіўных матэрыялаў, успамінаў, справаздач і літаратуры даў магчымасць прадставіць у значнай меры поўны вобраз гісторыі ППР на тэрыторыі Беласточчыны.

Michał Gnatowski, **Puszcza Białowieska była ich domem. Zarys dziejów partyzanckiej brygady „W imię Ojczyzny",** „Książka i Wiedza", Варшава 1979, стар. 152, цана 20 зл.

Кніга расказвае пра савецкіх партызан брыгады „У імя Айчыны", якая дзейнічала з восені 1943 г. у паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны, асабліва ў Ружанскай і Белавежскай пушчах.

Jasińska-Socha Teresa, **System fleksyjny starobiałoruskich zabytków II połowy XVI wieku (Opowieść o Trystanie. Opowieść o Bowie),** Ossolineum 1979, стар. 107.

Даследаванне прысвечана аналізу флексій беларускай мовы канца XVI ст. на аснове двух свецкіх помнікаў старабеларускай літаратуры.

Krzemień Wiktoria, **Filozofia w cieniu Prawosławia. Rosyjscy myśliciele religijni przełomu XIX i XX w.,** Pax, Варшава 1979, стар. 177, цана 50 зл.

Адзін з важнейшых фактараў, якія ўздзейнічаюць на своеасаблівасць рускай філасофскай думкі, — гэта праваслаўе. У кнізе аўтар разглядае канкрэтныя філасофскія праблемы, разнастайнае гістарычнае вырашэнне якіх агульнавядома, і спрабуе паказаць асаблівасці падыходу да іх з боку рускіх філосафаў, асаблівасці, якія абумоўлены ўздзеяннем традыцый праваслаўя.

**Р.С.**

М. ШАХОВІЧ

# З народных гаворак

**жэржэтуўка, -і,** жан. — тонкая жаночая хустка з лёгкапаморшчанага матэрыялу. Лічылі яе святочнай і накладалі пры нагодзе большых урачыстасцей. Нэ бачыла ты мэйі жэржэтуўкі? Пуд столом твою жэржэтуўку я вчора нашла. Дыэты тэйю жэржэтуўкою бавылісь. Вжэ жэржэтуўкі ны модны.

**закручанка, -і,** жан. — вялікая хустка, найчасцей ваўняная, зробленая ўручную. Закручвалі ёй галаў і шыю, а канцы пад рукамі завязвалі на спіне. Бараніла яна ад ветру. Закрунысь у закручанку, то ны прозябнэш, ныякі вітёр ны провіе. Як пропала дэсь лоны, то так і жыву бэз закручанкі. А так, то і ны розлучалася з закручанкой. Ныкоторы бабы шчэ і тыпэр мают закручанкі, але чы пуйдэш позычаты?

**косінка, -і,** жан. — лёгкая летняя трохвугольная хустка. Часта завязвалі яе ў час сенажацей. Кажэш ны завязуваты косінкі? До сынокосуў то ж туолькі косінка. Пуд косінкою ты нэ так спотіеш. І мы понакладалі косінкі.

**шолкова, -ой,** жан. — хустка, зробленая з шоўку. Ны мны мэйі шолковой хусткі. Заўтра свято, то можэ шолкову завязаты? А я там за шолковой ны пропадаю. Колі шолковы дорогіе.

**суконна, -ой,** жан. — ужо сама назва гаворыць пра матэрыял хусткі. Па выгляду, што датычыць велічыні, нагадвала яна „закручанку". Яе канцоў аднак не завязвалі, а толькі прытрымоўвалі рукою і накладалі яе не на голую галаву, а паверх нейкай іншай хусткі. Адным словам нешта пераходнае ад „закручанкі" да „опынальной" (пісалі раней). Ны выходь бэз суконной хусткі. А дэ я возьму суконну, як у нас ныма? Позыч, але окрунысь суконной, бо муоцно дуе. Суконны добры на холод.

*(Дубічы Царкоўныя)*

# Алімпіяда

Гэтае слова ў нас амаль заўсёды звязваецца з найбольшай спартыўнай імпрэзай свету, са шляхетным спаборніцтвам моладзі, поўным эмоцый для яго ўдзельнікаў і задавальнення для пераможцаў.

У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску слова „алімпіяда" абазначае спаборніцтва ў здабыванні як мага больш грунтоўных ведаў, а яно вядзе да такіх „алімпійскіх" лаўраў, якія тут становяцца заліковымі кніжкамі вышэйшых школ. Нядаўна, у часе II з'езда абсальвентаў і выхаванкаў ліцэя, ён быў узнагароджаны медалем Камісіі нацыянальнай адукацыі і ганаровым знакам „Заслужаны для Беласточчыны". 20 кастрычніка г.г. ліцэй наведалі віцэ-куратар Беластоцкай куратарыі асветы і выхавання мгр інж. **Ежы Сівік** і намеснік каменданта Беластоцкай харугві Саюза польскіх гарцэраў гарцмейстар **Галіна Гжэлякоўская.** Прыбылі яны, каб яшчэ раз падзякаваць дырэкцыі, педагагічнаму савету і школьнай моладзі за актыўны ўдзел у распаўсюджванні навуковага алімпійскага руху, за надзвычай высокія дасягненні гэтай школы ў XXI алімпіядзе ведаў пра Польшчу і сучасны свет. Трывалым доказам асаблівага прызнання ліцэю застаецца спецыяльны дыплом ад Куратарыі і кубак ад Харугві. Асабістую падзяку і дыплом атрымала таксама настаўніца мгр Таісія Бялецкая, якая рыхтавала вучняў да XXI алімпіяды.

З вялікім задавальненнем прынялі настаўнікі і моладзь словы віцэ-куратара Е. Сівіка, які дзякуючы за дагэтуляшнія вынікі, падкрэсліў, што „дасягненні вашай школы ўслаўляюць усё школьніцтва Беласточчыны". Канчаючы сваё выступленне, ён запытаў: „У чым заключаецца таямніца вашых дасягненняў?"

Дырэктар ліцэя мгр А. Карпюк заўважыў, што „на самай справе няма таямніцы, калі формы працы вядомы ўсёй школе — 381 вучню і 20 настаўнікам. Але затое ёсць вера ў сістэматычную і сумленную працу на працягу ўсяго года вучнёўскіх калектываў пад кірункам адданых школе і моладзі настаўнікаў. Масавы ўдзел вучняў у працы ў прадметных гуртках, разнастайныя формы заняткаў, супрацоўніцтва вучняў з настаўнікамі — гэта асновы нашай работы над развіццём зацікаўленняў і здольнасцей моладзі".

Гэтая скромная знешне, але багатая зместам урачыстасць адкрывала ў нашым ваяводстве падрыхтоўку да чарговай, ужо XXII алімпіяды ведаў пра Польшчу і сучасны свет, якая будзе праходзіць пад лозунгам „За мір і грамадскі прагрэс на свеце". На заканчэнне ўрачыстасці з дакладам „Значэнне Польшчы ва ўмацаванні міру на свеце" выступіў удзельнік цэнтральных элімінацый мінулагодняй алімпіяды, вучань чацвертага класа Пётр Адамюк.

Жадаем новых поспехаў алімпійцам з Бельскага беларускага ліцэя!

**Сцяпан Трафімюк**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

# Я ВАМ — ВЫ МНЕ

мой сын, калі я закрануў гэтае пытанне ў нашай гутарцы.

— Яны ж нарадзіліся ўжо пад гарадскім небам і першае, што змаглі ўцяміць — гэта клеткі памяшканняў у аграмадных жалезабетонных карпусах. Нянькай для іх быў тэлевізар, а не бабульчыны казкі над калыскай. Найлепшымі героямі з'явіліся розныя Болькі і Лёлькі, або нейкія казачныя звыры-велíканы. А ўсё зводзілася да таго, каб навучыць, як абдуць дурнейшага, як знішчыць слабейшага. Пазней адукацыю нашых дзяцей папаўнялі каўбойскія фільмы і ўрэшце-рэшт што аставалася ў іх памяці? Аставалася паклонніцтва перад даларовай культурай, закараняліся мары аб хуткай нажыве танным коштам, каб як мага хутчэй ездзіць уласным аўтамабілем, адпачываць на мяккіх дыванах...

— Божа мой, — усклікнула Палашка, — зноў на палітыку ўлезлі! Лепш ужо піце і ежце на здароўе, пакуль яшчэ стол запоўнены.

— Так, — падтрымаў я жонку. — Ідзе цяжкі час. Глядзіце, што за акном чаўпецца. Пасля дажджоў, — адразу марозі! Як бы і без гэтага мала нам бяды Бог паслаў у гэтым годзе! Нават бульбу не ўсе паспелі вырваць з балота, буракі на полі...

— І восем мільёнаў тон збожжа прыдзецца купіць нам за мяжой, — дакінуў мой зяць Янка.

— Па звыш 200 долараў за адну тону!

— А ўжо краіна ў даўгах па вушы... Цяпер ужо кожны дабаўляў штосьці ад сябе, што яму здалося асабліва важнейшае. Я пачакаў, пакуль сціхне гэты сямейны гоман, і тады адазваўся так:

— Рэдка збіраецца наш сямейны сейм, а зараз мы ўсе разам. Сядзім, гаворым, раімся адзін у аднаго... як свае, як родныя. Гатовы дапамагчы кожны кожнаму — я вам, вы мне. І хай так будзе заўсёды. Прапаную прыняць нашу сямейную пастанову: трымацца разам! Хто за?

Рукі згодна падынялі ўсе. Толькі Палашка не прыняла ўдзелу ў гэтым галасаванні, бо пабегла на кухню, дзе штосьці новага і смачнага засквярчэла ў духоўцы. Мы выпілі за нашу пастанову і кожны з нас пачуў новы прыліў унутраных сіл.

А што, каб гэтую прыватную пастанову расшырыць на ўсю нашу беларускую сямейку. Трымаймася разам! І дапамагайма сабе ўзаемна! Я вам, вы мне! Ну, як? Ваш —

**Максім Нурэцкі**

# САЛІДНАЯ ФІРМА

Аб добрых рамесніках і іх паслугах няшмат пішацца ў нашым тыднёвіку. А я сёння хачу аб кравецкай спулдзельні ў Гайнаўцы, якая знаходзіцца на вуліцы Леніна.

Патрэбны мне быў касцюм. У крамах Беластока не знайшоў на сваю фігуру. Таму вымушаны быў накіравацца ў кравецкую спулдзельню і пашыць па заказу. Паехаў у Гайнаўку. Там знялі меру і назвалі прыблізны тэрмін выканання. І вось што хачу сказаць. Тэрмін быў стрыманы, а нават раней я мог забраць гатовы касцюм. Работа была выканана таксама салідна. У час маіх візітаў у майстэрню я заўважыў, што працаўнікі вельмі ветліва адносяцца да людзей, чаго якраз так часта не хапае нам.

Як расказваў кіраўнік кааператыва Рыгор Грыгарук, у спулдзельні працуе 12 краўцоў. Ёсць таксама вучні кравецкай прафесіі. Паслугі ў іх выконваюцца і мужчынамі, і жанчынамі. Шыць усё можна з матэрыялаў уласных або спулдзельчых. Варта карыстацца. кажу вам, паслугай гайнаўскай кравецкай спулдзельні.

**(ус)**



**ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ**
*Уладзімір Баршчэўскі з Малінік з сынам.*
*Фота М. Шаховіча.*

# БОЛЬШ ГОДА ПАСЛЯ ПАЖАРУ

Дзе пажары, там заўсёды матэрыяльныя страты. Вельмі часта пажары выбухаюць на вёсцы. Прычыны бываюць розныя. У нашым выпадку дзеці, пакінутыя без апекі, расклалі агонь ля хаты ў час, калі ўсё навокал было вельмі сухое. Здарылася гэта 4 ліпеня 1979 года ў Залуках у Гарадоцкай гміне. Быў ветраны дзень. Паляцелі іскры. Агонь заняў будынкі. А вядома, што ўлетку, а яшчэ ў жніво, рэдка хто бывае дома. Пакуль хто ўляцеў у вёску, пакуль прыехалі пажарнікі, агонь ператварыўся ў расшалелую стыхію. Пачалося з панадворка Сцяпана Лісоўскага. Загарэлася хата, а пасля хлеў і стадола. Спачатку гарэлі будынкі з аднаго боку вуліцы, але вецер хутка перакінуў яго на другі бок. Ад пажару пацярпела дзевяць сем'яў, дзевяць гаспадарак, 30 чалавек. Згарэла шэсць дамоў, дзевяць хлявоў, восем стадолаў і другія інвентарскія будынкі.

Пагарэльцы пасяліліся ў суседзяў. Некаторыя на цэлы год, або аж пакуль здолелі пабудаваць сабе дом або часовы будынак, у якім можна было пасяліцца. Каровы, свінні, куры спачатку былі пераведзены на панадворкі суседзяў. Людзі тут зжытыя, чулыя і добразычлівыя. Як тады не дапамагчы. Хто ведае, што каго чакае ў жыцці? Бяда можа кожнаму здарыцца. Суседзі дапамагалі ва ўсім. Яны і найбольш спачувалі, і пацяшалі, і не адмовілі ў нічым. Пацярпеўшым дапамагалі гмінныя ўлады, Польскі камітэт грамадскай дапамогі і ПЗУ. ПЗУ даў задаткі ў лік кампенсацыі. Гмінныя ўстановы забяспечылі прадуктамі на цэлы тыдзень. У першую чаргу прыдзялілі ім будаўнічыя матэрыялы. Не ўсім хапіла аднак цэменту, цвёрдай пліты, этэрніту. Так ужо цяпер усе нагвалт будуюцца.

Пажар адмяніў лёс некаторых сем'яў. Мікалай Дробат, Мечыслаў Лукша, Юзэф Яроцкі і Ян Рагач купілі сабе ўласныя кватэры ў Беластоку і выехалі адсюль. Там жывуць і працуюць. Пановаму. Калі б не пажар, бадай, не рызыкавалі б пакінуць вёску і здаць зямлю ў дзяржаўны фонд зямлі.

На месцы асталіся жыць Мікалай Грэсь (у яго ўцалеў дом), Канстанцін Маліноўскі (у яго астаўся дом), Адам Літвін (у яго асталіся дом і хлеў) і Эдвард Літвін (яго дом быў часткова выратаваны). Рыгор Рагач перабраўся ажно за вёску. Тут пабудаваў дом і мураваную абору. Заняўся вырошчваннем агародніны ў цяпліцы.

20 кастрычніка сустракаю на вуліцы Адэлю Літвін, жонку Эдварда. Яны з мужам цэлы год жылі ў Адама Літвіна. Дабытак трымалі таксама ў яго. Зараз увайшлі ў сваю хату. Вельмі прыдалася б ім пліта, каб аббіць сцены. Але яе ў ГСе няма. Маглі б на зіму ўвесці кароў і свіней у свой хлеў, але ніяк не ўдаецца купіць этэрніт. Спадзяюцца, што ўлады ім у гэтым дапамогуць. У гмінным упраўленні мне крыху інакш гаварылі. Хто? Там ведаюць. Думаю, калі прачытаюць у „Ніве“, слова стрымаюць.

Адэля Літвін, як і ўсе іншыя пагарэльцы, пагадзілася ўжо з тым, што прыйшлося будавацца нанава.

— Часамі толькі, — успамінае, — спатрэбіцца матыка, рэшата, лапата, або каробка ды пайду ў клець і вярнуся з нічым. Там яны некалі нязменна былі, але было гэтак перад тым... Дый за гэта мы не атрымалі ні граша. А як на вёсцы без гэтых прадметаў абыйсціся? Яны ў нас заўсёды былі ў свіране.

Калі загарэлася хата, Адэля Літвін была ў агародзе. Пакуль прыбегла, схапіла толькі лепшае адзенне з шафы. Пасцелі нават не ўдалося вынесці. Каровы пасвіліся за вёскай. Свіней паспелі выгнаць з хлява. О, пажар! Гэта вялікае няшчасце. А яшчэ калі б людзі не дапамаглі, не ведаю, як удалося б усё перанесці. Столькі гора, бяды! Як забыць!

**Я. Целушэцкі**

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ПАЗНАЁМІЛІСЯ, ПАЖАНІЛІСЯ

Яна дзяўчына, ён кавалер. Пазнаёміліся і пажаніліся. Ён прыйшоў да яе. Бо яе бацькі жывуць амаль у горадзе, а, вядома, ён сёння цягне маладых. На жаль, любіў ён больш вёску, чым горад, і больш працу на гаспадарцы, чым у горадзе.

Нарадзіліся дзеці, адно, потым другое. І пачало між імі нешта псавацца. Узніклі спрэчкі і лаянкі. Яна скардзілася, што з ім жыць немагчыма. Ён — што яна вельмі лянівая.

Бацькі бачылі гэта, аддзяліліся ад іх, пабудавалі ім асобны дом. Выгрaшыліся, бо што дзецям не робіцца. Нічога ў маладых не змянілася. Яна пачала знікаць з дому часта на цэлыя суткі. А ён усё больш пачаў цікавіцца бацькоўскім кутком, роднай вёскай. Пачаў садзіць там трускалкі. Купіў трактар. Адкрыў пункт скупкі трускалак.

Яна таксама пачала дзейнічаць. Узнікла ў яе думка стаць прадаўшчыцай у кіёску „Рух“. Пачала мучыць бацьку, каб за яе паручыўся. Бацька не вельмі хацеў згадзіцца, але яна пераканала бацьку, настаяла на сваім. Праз нейкі час прыйшла камісія і зрабіла падлік. Вынік падліку не быў карысны для яе і для яе бацькоў, а разам і мужу. Аддаў справу ў суд, каб прызналі яму бацькоўства. Суд прыхіліўся да гэтага. Яна ўжо забыла пра сваіх дзетак, адцуралася ад бацькоў. Маці прабавала ўгаварыць: слухай, бойся Бога, чаму ты не шкадуеш сваіх дзетак, яны ж такія мілыя. Яна адказала: вазьмі маіх дзетак і ў баршчы звары — то мне ўсё роўна. Стала алкагалічкай і пачалі яе лячыць ад гэтага. Пазнаёмілася з іншым чалавекам, на жаль, не да жыцця.

Сёння ён жыве адзін і апякуецца сваімі дзеткамі.

Вось якія людзі ёсць між намі.

**(пч)**

# Волька Выганоўская

(Працяг са стар. 1)

вучаў славянскія мовы і літаратуру ў Празе, Вене, Любляне, Фларэнцыі, Венецыі, Рыме, Парыжы, Будзішыне, чытаў лекцыі па арабскай філалогіі, збіраў і апісваў стараславянскія рукапісы. Прафесар Віленскага універсітэта, кіраўнік беларуска-літоўскага філалагічнага гуртка. У 1824 г. звольнены з універсітэта за пашырэнне прагрэсіўных ідэй і сасланы ў Жыровічы на Слонімшчыне пад нагляд паліцыі. У 1826 г. вярнуўся ў Вільню, выкладаў ва універсітэце стараславянскую мову; выступаў супраць паланізацыі і лацінізацыі. Збіраў беларускія рукапісы і кнігі, знайшоў і ўвёў у навуковы ўжытак „Супрасльскі зборнік“. Аўтар славістычных артыкулаў, прац „Пра характэрныя моўныя звароты беларускага народа“ і „Гісторыя беларускіх друкарняў у Літве“ (на жаль, дагэтуль яшчэ не знойдзеныя). Пра М. Баброўскага грунтоўны артыкул праф. Б. Белаказовіча змясціла „Ніва“ ў нумарах 31-33 у 1958 годзе.

Унук К. Баброўскага — Пётр Восіпавіч Баброўскі (2.IV.1832-1905) прадоўжыў і ўзбагаціў выдатную сямейную традыцыю, пайшоў следам свайго дзядзькі Міхала. І тут зноў звернемся да Беларускай Савецкай Энцыклапедыі як самага пэўнага і найбольш сціслага даведніка. Таксама ў яе II томе на стар. 40 чытаем пра П. В. Баброўскага: „Аўтар прац па гісторыі Гродзеншчыны, найбольш вядомыя „Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба. Гродзенская губерня (часткі 1-2 і дадаткі ў 2-х тамах, 1863 г.). У ёй сабраны матэрыялы па гісторыі гарадоў Гродзенскай губерні, прамысловасць, сельскую гаспадарку, землеўладанні і інш. Баброўскі вывучаў таксама гісторыю летапісаў, ваеннай справы, царквы, права“. Пры гэтым варта заўважыць, што ў той час у склад Гродзеншчыны ўваходзіла ўся сённяшняя Беласточчына, таму каштоўнасць прац П. В. Баброўскага для нас надзвычай высокая.

„Ці захавалася ў цяперашняй Вольцы нешта пра Баброўскіх?“ — запытае чытач. Так, хоць і няшмнога. Гэта высечаная з польнага каменя намагільная стэла-помнік, здымак якога тут змяшчаем.

У пачатку нашага стагоддзя вёска валодала 21 участкам (па 18 дзесяцін кож-





© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: М. П. пытае, чаму гмінныя ўлады, як даюць маладым людзям зямлю, то аб здароўі не пытаюцца. Гаспадарку весці — то не лапці плясці. Узяць можа і хворы, а гаспадарыць павінен здаровы.

АДКАЗ: Закон аб пенсіях і іншых належнасцях для сялян і іх сямей прадбачыць, што наступнікам селяніна, які перадае гаспадарку за пенсію, можа быць сын, унук, брат або сястра і іх дзеці, пасынак або падчарыца і выхаванак. Ад наступніка вымагаецца, каб меў менш 55 год і не быў інвалідам I або II групы, а таксама меў скончаныя прынамсі курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Найбольш складанай справай з'яўляецца стан здароўя наступніка. Ужо сам факт, што наступнікам можа быць інвалід III групы, паказвае, што закон у гэтых адносінах не з'яўляецца рыгарыстычным. Яшчэ больш складаная справа, калі наступнік па здароўі мог бы быць залічаны да II або I групы інвалідаў, але на лекарскай камісіі не быў. Начальнік гміны не мае правамоцтва, каб кіраваць гэткую асобу на камісію. Можа толькі спаслацца на тое, што даная асоба не дае гарантыі, каб належна весці гаспадарку, і гэтым самым змусіць наступніка да злажэння адпаведнага лекарскага пасведчання. Можа таксама здарыцца, што асоба, якая прымае гаспадарку будучы здаровай, а прынамсі не з'яўляецца інвалідам I або II групы, захварэе пасля прыняцця гаспадаркі. Гэтага ніхто прадбачыць не можа і таму няма гарантыі, што асоба, якая атрымала гаспадарку, зможа гаспадарыць. Пытанне паказвае на праблему, якая павінна быць прадумана і на абавязак начальніка гміны звяртаць пільную ўвагу, ці наступнік здольны гаспадарыць.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мінула толькі два гады, як мы пажаніліся, а як жа змянілася мая жонка. Калі была маёй нарачонай, а нейкі час яшчэ і жонкай, была сімпатычная, вясёлая, элегантная. Яшчэ тады працавала. Калі вернемся дамоў, у нас заўсёды былі супольныя тэмы, зацікаўленні. Мы і ў кіно схадзім, у кавярню час ад часу. Але змянілася мая жонка, калі нарадзілася дзіця, а яна кінула працу. У халаце можа цэлы дзень прахадзіць, усё круціцца то пры кухні, то пры дзіцяці. Усё ў яе поўна работы, а яна ж не працуе. Адно дзіцём і хатняй працай займаецца. А ўсё змучаная, усмешка, якая калісьці з твару не сходзіла, цяпер рэдка паяўляецца. І на нішто ахвоты ў яе няма. Ні ў кіно, ні ў кавярню. Можна было б дзіцё завезці да маці на вечар. Хаця яна на другім канцы горада, але хацеўшы, усё можна. А яна кажа, лепш раней спаць лягу, хоць адпачну. І так штодня. Каб не той тэлевізар ды газета, з нуды памерці можна было б у нашай хаце. Расчараваўся я ў жаніцьбе. І часамі дадумоўваюся, ці вытрымаю я з маёй жонкай. Толькі дзіця, я яго кахаю, яно маё. І што рабіць, парай Сэрцайка.

Мірэк з Беласточчыны

**Мірэк!** Што рабіць, пытаеш. Памагчы жонцы, во што! Выручыць крыху яе ў гэтай сапраўды нуднай і маруднай дамашняй рабоце. З дзіцём пазабаўляцца. А то табе, як і многім мужчынам здаецца, што калі жонка не працуе, дык жа яна нічога не робіць. А вось паставіць бы цябе на дзён пару на жончына месца, цікава які б быў настрой ды элеганцыя. Ты адпрацаваў гадзіны і свабодны. А тут канца няма. Пры дзіцяці работы шмат. І купіць, і зварыць жа трэба. І пасціраць, і пасуду памыць. І калі выручыш крыху жонку ў тых работах, убачыш, павесялее яна і папрыгажэе. Памятайце, мужы, перш чым абвінавачваць жонак, гляньце на сябе, ці вы ў парадку.

**Сэрцайка**

## Сенакосная

*Кусьціе косят, Бога просят,*
*кусьціе косят, Бога просят:*
*— Ой, дай Божэ, пагоданьку,*
*ой, дай Божэ, погодоньку,*
*ой, дай Божэ, погодоньку*
*на нашую роботоньку,*
*коб мы сіено высушылі,*
*коб мы сіено высушылі*
*і ў копочкі положылі,*
*і ў копочкі положылі,*
*і ў копочкі положылі*
*і до стогоў поносілі.*




Ад Юстыны Галко, 1894 г. нараджэння, вёска Тафілаўцы гм. Дубічы Царкоўныя, запісаў 2 жніўня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 5)

## Танкіст Сініцын

аднак з адной бяды ў другую. Даўнейшыя яго кватаранты паспелі ўжо заняць свае баявыя пасты ў дотах.

Лейтэнант Іван Іванавіч Змейкін, які тут камандаваў другой ротай, гэты эпізод запамятаў вось так:

*„Танкавы ўзвод, якім камандаваў старшы сержант Сініцын, складаўся з трох укапаных у зямлю танкаў без рухавікоў і прызначаўся для барацьбы з варожымі танкамі, калі б яны паявіліся ў зоне абароны, замацаванай за нашай ротай. Гэты ўзвод прыняў актыўны ўдзел у спыненні атак ворага. Асабліва адважна біўся старшы сержант Сініцын. Нягледзячы на раненне, ён вёў агонь да апошняга снарада. У гэтым баі Сініцын геройскі загінуў. На шосты дзень з нашай роты асталося ледзь некалькі чалавек, параненых і кантужаных..."*

Колькі ён немцаў забіў, я гэтага сказаць не магу, але ведаю напэўна, што загінула тут двое гітлераўскіх салдат. Пасля бою знайшлі мы іх на полі, недалёка ад танка, у якім сядзеў наш знаёмы танкіст. Было гэта на палосцы майго брата Баляслава. Брат перапалохаўся, што гітлераўцы могуць да яго прычапіцца, і папрасіў суседзяў, каб дапамаглі яму перанесці гэтых забітых салдат у яго пуню. Паклалі іх на таку. Два або тры дні яны там ляжалі, ужо і смурод пайшоў па панадворку, бо было гэта ў чэрвені, а сонца грэла невыносліва. Што толькі паявяцца ў вёсцы нейкія немцы, брат бяжыць да іх і паясняе, што іхнія камраты ляжаць забітыя ў яго пуні. Урэшце ён дабіўся таго, што прыйшлі нейкія немцы, загадалі за братавай пуняй выкапаць магілу, забралі ў сваіх суайчыннікаў апазнавальныя значкі, завярнулі іх трупы ў чорную пластмасавую плахту і так закапалі. Пасля магілу яшчэ абгарадзілі, пасадзілі кветкі і загадалі солтысу, каб пастаянна наглядаў там за парадкам.



*Кацярына, даўнейшая жонка Міхаіла Сініцына, і цяперашні яе муж, Эдвард Раткоўскі.*

Гаварылі, што крыху пазней вывезуць іх у Германію, але яны і па сённяшні дзень ляжаць у нашай зямлі...

— А гэты танкіст? — спыніў я селяніна.

— Ён таксама тут пахаваны, — кажа Міхась Мішчук. — Немцы падыйшлі да яго ззаду, адчынілі танкавы люк і гранатай...

Мы зноў вярнуліся ў хату Марыі і Тэафіля Бярэзаў. Гаспадыня, калі пачула, што гутарым мы пра танкіста Сініцына, уздыхнула па-жаночаму і кажа:

— Я то найбольш спачуваю яго жонцы, гэтай Каці. Што яна, бедная, перацярпела, што перажыла... Хай Бог бароніць! Адна з дзвюма, яшчэ груднымі дачушкамі...

— А можа ведаеце, што з ёю — пацікавіўся я.

— Каця? Жыве! — кажа Марыя Бярэза. — Яна паўторна выйшла замуж і жыве на хутары ў вёсцы **Пуцькові́чы Нагорныя...**

— А яе дачка, — дадаў Міхась Мішчук, — працуе ў Драгічыне, у гандлёвым павільёне.

Адшукаў я гэтых жанчын. Лёс іх аказаўся яшчэ болей складаны, чым гэта людзям здаецца. Але аб гэтым ужо наступным разам.

Пра гэтага воіна, які загінуў у Мінчэве, найперш пачуў я ў вёсцы Турна Малая ад Аляксандра Палешчука. Калі пра яго пішуць у кніжцы, калі чулі аб яго подзвігу аж за дзесятай вёскай, дык і ў Мінчэве можа яго таксама памятаюць.

— А як жа, гэтага Мішку, які ў танку загінуў, я добра памятаю, — кажа Міхась Мішчук. — Быў ён такі высокі, смуглы, прыгожы мужчына. Стаяў на кватэры ў Аляксандра і Антона Усціянчукоў. Быў жанаты.

— Былі ў іх тады дзве маленькія дачушкі-блізнючкі, — дабавіла Марыя Бярэза, у хаце якой сустракаўся я з сялянамі з вёскі Мінчэва.

Міхась Мішчук ахвотна згадзіўся паказаць мне месца, дзе змагаўся старшы сержант **Міхаіл Сініцын.** Гэта на загуменні ў Мінчэве, метраў сто ад пуняў, дзе канчаюцца сады ды агароды і поле пераходзіць у шырокую даліну.

— Тут недзе быў закапаны яго танк, — расказвае селянін. — Ездзіць ён не мог, але страляў на ўсе бакі, страляў з гарматы і з кулямёта. Як толькі паявіліся вунь там, — паказаў у бок Буга, — варожыя салдаты, гэты Мішка адразу запусціў па іх сваю машынку.

**Віктар Рудчык**

## Вер-не-вер

Дарагі Астроне! Ужо другі раз пішу я да цябе сон, але гэты сніўся маёй маме. Вельмі цікавы, толькі мы не можам яго разгадаць. Быццам была вясна, і мама пасеяла жыта. У нас поле каля вёскі, а другі кусок на калоніі. Мама стаяла на гэтым полі, што каля вёскі, і пасеяла там жыта ў двух кавалках. І што цікавае: мама на жыце пасеяла тры палоскі рыжыку. Астроне! Мая мама жыве адна, бацька наш памёр 13 год назад, засталіся чатыры дачкі. Ужо дзве выйшлі замуж. Мы дзве цяпер засталіся. Чакаем вашага адказу.

Чытачка

**Чытачка!** Сон сапраўды цікавы, але не надта добры. Бо тое, што пасеяла маці жыта, абазначала б і добрае здароўе, і спакой і задавальненне або нейкі прыбытак. Маці ж на ўсім гэтым пасеяла рыжык — траву, менш прыдатную, з якой найчасцей робяць венікі. Дык думаю, што і ў здароўі тваёй маці можа штосьці зашванкаваць. А мо са спадзяванага прыбытку нічога не выйдзе.

**Астрон**




### МОДНАЕ ПАЛІТО

На нашым здымку вы бачыце вельмі моднае паліто. Такое паліто можна перарабіць нават са старога, якое ўжо крыху абрыдла і выгарэла, трэба яго толькі пераліцаваць і даць да яго падкладку са штучнага футра. Футра можа быць колеру матэрыялу (напрыклад чорнае, бежавае, карычневае і інш.), а можа яно кантраставаць з матэрыялам. Даем, напрыклад, да бежавага габардзіну карычневую або ў нейкія плямкі падкладку. Зразумела, што паліто можна пашыць, падшываючы яго натуральным футрам. Толькі ці не было б яно занадта дарагое? На моднае адзенне не варта выдаваць вялікія грошы. Звярніце ўвагу на модную шапачку, штаны і кароценькія боцікі. На нашым здымку супастаўленне колераў такое: штаны, світэр і шапачка белыя, боцікі светлакарычневыя, а паліто зялёнае на карычнева-бежавай падкладцы.

**Сяброўка**





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ДЫЯЛОГ

— Ты чаму гэта, целяпень, сёння на семнаццаць мінут пазней з работы прыцёгся?

— Ды я... — баязліва паглядаючы на мажную палавіну, целяпень паказаў на сумку з прадуктамі.

— Пэўна, стаяў, разявака, ды ўступаў чаргу жанчынам?

— Ды я...

— А можа, ужо, салапендра, кралю сабе завёў? Няхай толькі пачую што, дык галамоўзу тваю растаўку!

— Ды я...

— Ведаю, што не асмелішся. Куды табе, хлюпік няшчасны!

— Ды я...

— Хаця ў вас жа там амуры круцяць! Расказвала суседка, што муж вашай сакратаркі застаў яе і начальніцкага шафёра адных у пакоі.

— Ды я...

— Не бачыў і не чуў нічога, цяцера глухая.

— Ды я...

— У другіх муж як муж. Ён табе прыйдзе з работы, усё раскажа. З авансу калі-некалі кілішак возьме, пагаворыць з жонку. Усё ж нейкая навіна. З такім і жыць весялей.

— Ды я...

— Маўчы ўжо, мямля! І пагнаў жа мяне д'ябал выходзіць за такога! Лепш бы ў дзеўках звекавала. Хіба я жыву? Адны пакуты.

— Ды я...

— Ды я, ды я! Задзякаў, як індык. З табой жа ні пагаварыць, ні ў госці схадзіць.

— Ды я...

— Ой, порхаўка гнілая. Замарылася я з табой. Сілачкі больш няма. Пайду адпачну ля тэлевізара. А ты, качарга крывая, станавіся ля пліты і хутчэй вячэру ладзь!

— Ды я...

І целяпень, разявака, салапендра, хлюпік няшчасны, цяцера глухая, мямля, індык, порхаўка гнілая, качарга крывая, абрадаваны заканчэннем дыялога, мышкай шмыгнуў на кухню.

**М. Міцкевіч**



# НІЎКА




### ДОБРЫ БРЫЛЬ БЫЎ

Было гэта летам. На мі... жы, каля садка, стары-ста... ры дзядуля варыў кашу.

Падбягае да яго суседа... хлопчык.

— Дзядуля, — шчабеча хлопчык, — а чаму вы так... зажураны?

— Ды брыль прапаліў, — адказвае дзядуля. Памаўча... і сумна дадаў:

— Добры брыль быў! Га... доў дваццаць новым насі... ды і старым ужо столькі ж... нашу.

### ЦІ БУДЗЕ БУРА?..

Кастусь збіраўся шмыг... нуць з хаты. Глядзіць у ак... но.

— Відаць, сёння ноччу будзе бура, — кажа жонцы...

— Калі рана прыдзеш цвярозым, то не будзе, — адказвае жонка.

### ВЕРХ РАССЕЯНАСЦІ

— Што такое верх рассе... янасці?

— Калі муж прывозіц... жонцы з камандзіроўк... бранзалет, а прыяцельніц... — свае брудныя кашулі.



*Без слоў.*

# МІНІВЕРШЫ

### ПЛАНАВАЛІ

*Як планавалі — быў размах*
*На сховішча і добры дах.*
*Спрачаліся, пісалі многа...*
*Папера ёсць, а больш нічога.*

**У. Праўасуд**

# Курʼёзы

### ШТРАФ ДЛЯ „ІКАРА“

Хто возьмецца сцвярджаць, што часы Ікараў мінавалі? На аэрастатах, шарах і іншых лятальных апаратах — на чым толькі ні падымаўся чалавек у паветра за апошні час. Не так даўно пералёт на арніптоптары — лятальным апараце, які прыводзіцца ў рух рукамі, праз вяршыню Сан-Гатард у цэнтральнай Швейцарыі зрабіў саракагадовы Марка Брогі. На фінішы адважнага „летуна“ сустракалі радасныя гледачы. Зусім іншы прыём, аднак, аказалі яму ўлады — штраф у памеры 20 тысяч фунтаў. Паводле паведамлення газеты „Інтэрнэшнл геральд трыбюн“, чыноўнік швейцарскага федэральнага бюро грамадзянскай авіяцыі так абгрунтаваў гэта рашэнне: „Калі мы своечасова не прымем адпаведных абмежавальных мер, то ў неба будзе поўна такіх, як Брогі“.

### СЮРПРЫЗ ЭМАНСІПАЦЫІ

Егіпецкім жанчынам яшчэ далёка да роўнасці ў правах з мужчынамі. Але асобныя прадстаўніцы „прыгожага полу“ ўжо ні ў чым не ўступаюць мужчынам. У каірскім раёне Матарыя карыстаўся поспехам і славай шэйх Мухамед — лекар душ і цела ў людскіх. Хворых ён лячыў „лекавым“ зеллем або „гаючымі“ талісманамі, тым, хто трапіў у бяду, даваў „каштоўныя парады“ — за грошы, зразумела. Шарлатана доўга не чапалі. Як потым высветлілася, яго апякалі два высокапастаўленыя дзяржаўныя чыноўнікі. Калі ж, нарэшце, паліцыя па патрабаванню падманутых кліентаў з'явілася арыштаваць „шэйха“, то ў час кароткай бойкі вусы і барада лекара раптам адваліліся, і перад паліцэйскімі паўстала жанчына.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Пошта наша, на жаль, часам пра... цуе вельмі нядбайна.

— Чаму вы так мяркуеце?

— Муж прыслаў мне паштоўку з Філадэльфіі, дзе ён знаходзіцца па справах, а на пошце на ёй чамусьці паставілі штэмпель Чыкага!

*

Экзаменуюць кандыдата на пасаду памочніка дырэктара.

— Уявіце сябе, — спыталі яго, — што вы едзеце ў двухмесным машыне і бачыце на шашы трое людзей, якія просяць забраць іх з сабою: гэта ваш шэф, пажылая дама і прыгожая дзяўчына. Каму вы аддасце перавагу?

— Я выйду з машыны, аддам ключы шэфу, каб ён мог даставіць пажылую даму па прызначэнню, а сам застануся з дзяўчынай.

*

Хенрыксен пазваніў па тэлефону шэфу і сказаў, што ў яго ларынгіт і ён не зможа прыйсці на работу.

— Калі ў вас ларынгіт, то чаму вы не шэпчаце, а гаворыце так голасна? — падазрона спытаў шэф.

— А дзеля чаго я павінен шаптаць? Я ж не раблю з гэтага ніякага сакрэту.

### РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

# ДЗВЕ ТАПОЛІ

(Песня для жаночага ансамбля з баянам)

**Словы А. Ставера**
**Музыка Я. Ціхановіча**

Дзе таполі ў чыстым полі абняліся,
Там Ірына і Галіна пакляліся.
Пакляліся жыць у згодзе, жыць у працы,
Толькі замуж не выходзіць, не кахацца.
Колькі разам песень звонкіх праспявалі.
Але клятвы ўсё ж сяброўкі не стрымалі.
У Галіну Стась вясною закахаўся, —
Хлопец добры — і самой ён спадабаўся.

А у летнюю часіну, на Купала,
Янку горача Ірына пакахала.
Неўзабаве пасля жніва, у нядзелю,
Адгулялі мы шумліва два вяселлі.
Дзе таполі ў чыстым полі абняліся,
Там дзве пары у каханні пакляліся.
Дні праходзяць, дні адходзяць залатыя.
Ой, прыгожы! Ой вы, годы маладыя!




### НЕ ПАВЕРЫЦЬ

З грузавой машыны на легкавую ўпала дрэнна замацаваная калодка. З пашкоджанай машыны выйшла жанчына і расплакалася:

— Мой муж ні за што не паверыць, што дрэва наляцела на мяне, а не я на дрэва.



**Пастаяць за іншых ён ахвотна згаджаўся толькі ў чарзе за півам.**

*Пара ўставаць!*

### ЛЮДЗІ БРАХАЦЬ НЕ БУДУЦЬ

— Ты чуў, — кажа Мікола, сустрэўшы Пятра, — у нашага дырэктара з Ганнаю — шуры-муры...

— Адкуль ты ўзяў? — здзівіўся Пятро.

— Людзі кажуць.

— А ты, Мікола, заўсёды ў чуткі верыш?

— Вядома! Людзі ж брахаць не будуць. А што?

— Ды нічога... Кажуць бо людзі, што ты, Мікола, — як баба базарная.




**І ў свеце жывёл мы павінны паводзіць сябе пачалавечаму.**